ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года | №70 (4428) СЕРАДА, 31 жніўня 1994 года | Кошт па падпісцы — 8 руб., у розніцу — 30 руб.

## З ДНЁМ ВЕДАЎ!

Фотакалаж Юрыя БОНДАРАВА.

ПЕРАД ПЕРШЫМ ЗВАНКОМ

## ДЗЕ ЗГОДА, ТАМ І ЛАД,

### альбо ЯК У НЕГАРЭЛЫМ СТАРАЯ ШКОЛА СТАЛА НОВАЙ

**У настаўнікаў і вучняў другой Негарэльскай сярэдняй школы Дзяржынскага раёна сёлета вялікая радасць — новы навучальны год яны пачнуць у светлых, добра абсталяваных класах. Пасля капітальнага рамонту школу не пазнаць: тут змянілася ўсё — ад плінтуса да колеру будынка. За сваё больш чым саракагадовае існаванне школа рамантуецца першы раз, калі не лічыць штогадовы касметычны рамонт. Калі б сёлета не атрымалася гэтае пераўладкаванне, вельмі хутка школу трэба было б зачыняць з-за аварыйнага стану.**

Цяпер жа мясцовыя жыхары ласкава завуць яе "новай" старой школай.

Унікальны па сваім аб'ёме рамонт быў зроблены дзякуючы ініцыятыве і руплівасці дырэктара П. Т. Мельнікава менш чым за два месяцы і абышоўся больш чым у паўмільярда беларускіх рублёў. Прызвычаеныя за доўгія гады да валакіты будаўнікоў, настаўнікі, шчыра кажучы, не разлічвалі на такое хуткае завяршэнне рамонту. МПМК-190 Дзяржынска працавала без збояў. Начальнік І.Сухадольскі прыязджаў на будаўніцтва 2—3 разы на тыдзень, прараб І.Барoдзіч рабіў усё, каб школа была адрамантавана ў тэрмін.

У школе зроблены новы дах (ранейшы ўвесь час працякаў), заменены ўсе дзверы, 15 акон, падбіта столь, у калідоры і ў большасці класаў наслана падлога...

Мы хадзілі з дырэктарам Пятром Трафімавічам Мельнікавым па адрамантаванай школе, і ён хуценька расчыняў дзверы пакояў:

— Вось актавая зала. Тут, бачыце, зрабілі новую сцэну (ранейшая была дзіравая). А рашоткі на вокнах таму, што тут мы абсталявалі камп'ютэрны клас. Але сёлета, пасля рамонту, знайшлі для камп'ютэраў новае памяшканне. Актавую залу зможам цяпер выкарыстоўваць па прызначэнні.

— Замест былой кухні — прэпаратарская. — Новы кабінет для дырэктара.

— А вось гардэроб. Літаральна за два тыдні будаўнікі на голым месцы поўнасцю зрабілі гэтую пабудову. Цяпер дзеці змогуць тут распранацца і пераабувацца.

Задаволены Пётр Трафімавіч. Пасля рамонту школа — як новая. Без змен ва ўсім будынку засталося толькі адно памяшканне — бібліятэка. Сюды дзеці будуць прыходзіць не толькі па кнігі, але і як у своеасаблівы музей. Яны памятаюць, што пад бібліятэку некалі аддалі самы лепшы пакой.

На жаль, я не бачыла школу напярэдадні рамонту, але тое, што змагла ўбачыць цяпер, мяне ўразіла. Я сустрэла настаўнікаў, якія падчас рамонту ў запэцканых фарбай халатах рабілі пасільную працу. Іх твары свяціліся шчырай радасцю. Яны бачылі ўвесь працэс перабудовы і рамонту сваёй школы і справядліва ацэньваюць маштаб пераўтварэнняў.

У рамонце школы прымалі ўдзел і вучні старэйшых класаў. Я спытала ў хлопцаў, якія спрытна арудавалі рыдлёўкамі, ці не шкада апошнія летнія дзянькі праводзіць за працай на школьным двары.

— Для сябе ж працуем, — юнак з неразуменнем паглядзеў на мяне. І ўжо зусім па-даросламу дадаў: — Якімі б мы былі гаспадарамі гэтай школы, каб не дапамаглі яе будаўніцтву?

Сёння — апошні дзень канікул, але і ў другой Негарэльскай сярэдняй школе, мабыць, як і ўсюды, сабраліся вучні на ўрачыстую лінейку. А заўтра пачнуцца заняткі. І, безумоўна, ва ўтульных, светлых класных пакоях ахвотней будзе працаваць і настаўнікам, і вучням.

Галіна СІДАРОВІЧ.

## У МІНІСТЭРСТВЕ АДУКАЦЫІ

**29 жніўня віцэ-прэм'ер Рэспублікі Беларусь Віктар Ганчар на афіцыйным пасяджэнні супрацоўнікаў апарату Міністэрства адукацыі абвясціў указ прэзідэнта аб назначэнні міністрам адукацыі Васіля Стражава, які да апошняга часу быў намеснікам міністра адукацыі.**

Віктар Ганчар падкрэсліў, што новаму міністру прыйдзецца працаваць у складаных умовах, калі павышаецца персанальная адказнасць за прынятыя рашэнні і адданасць распараджэнні. Віцэ-прэм'ер адказаў на пытанні супрацоўнікаў апарату Міністэрства адукацыі, заклікаў да добрасумленнай і якаснай працы ў імя дабрабыту беларускага народа і прагрэсу ў адукацыі і навуцы.

Віктар ЛУЧАНКАЎ.



ВІНШУЕМ З НАЗНАЧЭННЕМ!



## Міністр адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь СТРАЖАЎ Васіль Іванавіч

Стражаў Васіль Іванавіч нарадзіўся ў 1944 годзе. Рускі. Скончыў у 1961 г. СШ №22 Мінска з залатым медалём, потым у 1966 г. — фізічны факультэт Белдзяржуніверсітэта і ў 1969 г. аспірантуру пры Інстытуце фізікі АН Беларусі. Доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар.

У 1970 — 1972 гг. працаваў у Інстытуце фізікі Акадэміі навук: старшым інжынерам-канструктарам, малодшым навуковым супрацоўнікам.

У 1972 — 1975 гг. — вучоны сакратар аддзялення фізіка-матэматычных навук АН Беларусі. У 1975 — 1978 гг. — інструктар аддзела навукі і навучальных устаноў Мінскага абкама КПБ.

У 1978 — 1980 гг. — загадчык аддзела навукі і навучальных устаноў Мінскага гаркама КПБ. З красавіка 1980 г. загадчык кафедры Беларускага інстытута механізацыі сельскай гаспадаркі. Са жніўня 1988 г. працуе ў Міністэрстве адукацыі: намеснікам начальніка Галоўнага ўпраўлення вышэйшай адукацыі і навукі, начальнікам Галоўнага ўпраўлення вышэйшай школы, намеснікам міністра.

ПАЭТЫЧНАЯ ШКОЛА ПАЧУЦЦЯЎ

ВАСІЛЬ ЖУКОВІЧ

# ПЕРАМАГАЙМА НАШУ СКРУХУ!

## ДЗЕЦЯМ-ПРА СВЯТЫ. Раздзел пяты. СЛОВА ДА НАСТАЎНІКАЎ ПАЧАТКОВЫХ КЛАСАЎ, ВЫХАВАЛЬНІКАЎ ДЗІЦЯЧЫХ САДОЎ, БАЦЬКОЎ

У суверэннай нашай краіне спраўляюцца розныя святы—агульнанацыянальныя, рэлігійныя, прафесійныя ды іншыя. Нядаўна нарадзілася свята беларускага пісьменства і друку. Даволі маладым з'яўляецца і Дзень незалежнасці. Для незалежнай дзяржавы ўзнікненне і святкаванне новых свяшчэнных датаў—гэта не выключэнне, а правіла, заканамернасць.

Як жа пачуваюць сябе школы, іншыя навучальныя, а таксама дашкольныя ўстановы, калі не толькі падручнікі, але і некаторыя перыядычныя выданні адстаюць ад жыцця? На якія ўрачыстыя даты арыентаваць дзяцей, з якімі святамі і абрадамі іх знаёміць? У посткамуністычным грамадстве пра гэта па сутнасці не гаворыцца. Адказу на такія пытанні не знайсці ў школьных і садаўскіх праграмах. Значыць, многае залежыць ад узроўню пазакласных заняткаў і ўсёй выхаваўчай работы, а перадусім — ад інтэлекту педагогаў.

У маёй будучай кнізе "Заранačка" сярод розных тэматычных раздзелаў ёсць і гэты. На газетнай паласе, напярэдадні новага навучальнага года, я пачынаю гутарку з "Дня ведаў". У календары гэты дзень так і называецца. Для дарослых ён рабочы і для многіх амаль звычайны, затое для дзяцей, якія адкрываюць сабе краіну ведаў, ён помны, урачысты, святочны. Адно шкада, што на гэтым свяце, у час урачыстай лінейкі, у школах Беларусі па-ранейшаму гучаць песні толькі маскоўскіх кампазітараў з такімі, напрыклад, словамі: "Вот на груди алый галстук расцвёл...", хоць той гальштук даўно перастаў расцвітаць. Ды яны, тыя таленавітыя людзі, не вінаватыя, што мелодыі іх колішніх песень цудоўныя. Уся бяда ў нашай коснасці і абыякавасці. Відаць, нашы педагагічныя калектывы мала хвалюе /мяркую па іх маўчанню/ тое, што няма ў нас добрых песень пра школьныя гады, пра настаўніцу, пра сяброўства, напісаных беларускімі паэтамі і кампазітарамі, як няма дагэтуль і Дзяржаўнага Гімна Рэспублікі Беларусь. І вось ужо чацвёрты год кожную раніцу "пілуе" нас гімн былой БССР. І гэта, між іншым, у той час, калі ў музфондах захоўваюцца прыстойныя гатовыя гімны. Адзін з іх—"Не загаснуць зоркі ў небе" /словы Янкі Купалы, музыка Міколы Янчука/. Але нездарма народная мудрасць гаворыць: "Пад ляжачы камень вада не цячэ"... Пэўна, яшчэ доўга будаваць нам незалежную дзяржаву.

**Другога лістапада краіна адзначае Дзень памяці. Дзецям трэба распавядаць пра Асяніны, восеньскія Дзяды, пра памінальны абрад, які сваімі каранямі ідзе да старадаўняга звычаю — культу продкаў. Дзядамі называлі не толькі вячэру ў памяць па памерлых родзічах, але і дзень, калі адбываецца названы абрад, і саміх нябожчыкаў, якіх паміналі. Напярэдадні Дзядоў людзі парадкавалі на панадворках, прыбіралі ў хатах, мыліся ў лазні. На святочную вячэру гатавалі куццю, клёцкі, ячню, аладкі. Дзядам сімвалічна адкладвалі ад кожнае стравы.**

Дзяды спраўляліся па тры-чатыры разы на год, а дзенідзе і больш. Цяпер амаль паўсюль памінаюць продкаў на Радаўніцу /першы пасля Вялікадня аўторак/ і на Сёмуху /сёмая пасля Вялікадня нядзеля/. Сям-там спраўляюць гэты абрад яшчэ перад Калядамі і Масленіцай. Асноўнымі ж былі калісьці Асяніны—восеньскія Дзяды.

Памінальны абрад — прыкмета высокай маральнасці і духоўнасці нашага старажытнага народа.

Наступныя яскравыя святы і святочныя народныя абрады вельмі вядомыя: Новы год, Каляды /Хрыстовы Нарадзіны/, Гуканне вясны, Дзень жанчын. Яны шырока адзначаюцца, асабліва Новы год і Дзень жанчын, і ў школах, і ў дзіцячых садах. Створана ўжо мноства сцэнарыяў, па якіх яны ладзяцца. У некаторых школах і садках сталіцы Каляды і Гуканне вясны ладзіліся па маіх сцэнарыях /іх я заўсёды з радасцю даю для карыстання/. Крыўдна толькі, што ў нашых усё яшчэ абруселых гарадскіх школах навагодняе свята разгортваецца на грунце расійскіх песень і казак, прыказак і прымавак, загадак, гульняў, хоць аналагічнага багацця ў Беларусі — шмат, варта толькі пацікавіцца. Ды цікавяцца пакуль малавата. Відаць па ўсім, нам давядзецца доўга яшчэ дбаць пра выхаванне нацыянальнай свядомасці і шчыраваць на ніве Адраджэння. Не выпадкова я раблю акцэнт на Дні волі, нацыянальным святе адраджэння беларускай дзяржаўнасці.

Дзень волі—свята не толькі кожнага свядомага беларуса, але і кожнага сумленнага грамадзяніна краіны, які зычыць дабра і шчасця ёй, як зычыць дабра і шчасця сваім родным.

Як вядома, абвешчанне Беларусі незалежнай дзяржавай ўпершыню пасля стагоддзяў няволі адбылося ў неспрыяльных гістарычных варунках 1918 года, калі большая частка нашай Бацькаўшчыны была акупавана германскімі войскамі. Драпежныя кіруючыя колы больш моцных дзяржаў, іх войскі імкнуліся захапіць ці проста прысвоіць беларускія землі, каб праводзіць тут сваю каланіяльную палітыку, што, на вялікі жаль, ім удавалася. Ці не таму наша краіна цягам многіх дзесяцігоддзяў не магла замацаваць сваёй нацыянальнай ідэі. Але за нашую (а не за нейкую навязаную нам) ідэю змагаліся сапраўдныя патрыёты Бацькаўшчыны, многія з якіх за яе аддалі свае жыцці — яны набліжалі незалежнасць Беларусі.

**25 сакавіка—свяшчэнная, святая дата ў нашай гісторыі. Гэты дзень—сімвал волі, яскравы сімвал адраджэння нашай роднае мовы, гісторыі, культуры, нацыянальных мастацтваў, тэатраў, рамёстваў, нацыянальнай свядомасці людзей. Незалежная Беларуская Народная Рэспубліка была ўтворана напачатку вясновага сакавіцкага дня, а восьмай гадзіне раніцы. Вясна — час вялікіх надзей, а раніца—пачатак усіх дзённых клопатаў. Няхай жа добры і мужны народ наш гэтак жа шчыра, як ён гукае вясну і як чакае ўзыходу сонца, заўсёды вітае свята сваёй волі!**

Наша краіна павінна як мага хутчэй паўстаць, выйсці з заняпаду не толькі эканамічнага, а і духоўнага. Зацікаўленым у гэтым прапаную вершы "Дзень волі" і "На Вялікдзень".

У маім артыкуле няма ніякай гамонкі пра Дзень перамогі: пра яго кожны настаўнік, кожны выхавальнік мае што сказаць дзецям, і выбар твораў пра вайну і перамогу ў іх ці не самы вялікі. Так звычайна бывае з "праграмнымі" святамі.

У час летніх канікулаў дзеці бачаць, як спраўляецца Купалле.Сям-там старажытнае Купалле прыстасоўваюць да сучасных танцаў і выпівак. Гэта не што іншае, як скажэнне прыгожага, вельмі яскравага і паэтычнага абраду, які дайшоў да нас з паганскіх (язычніцкіх) часоў і які звязаны з культам калісьці абагаўляльнага Сонца, з культамі вады, расліннасці і ўпрыгожаны песнямі, легендамі, варажбой, забавамі. Так што ёсць неабходнасць даносіць да дзяцей чароўны свет Купалля, каб адводзіць ад яго пагрозу далейшага апашлення.

Завяршаючы сённяшнюю кароткую, штрыхпункцірную гутарку, скажу, што ў вышэйпамянёнай кнізе кожны раздзел у параўнанні з газетнай публікацыяй будзе больш пашыраны, будуць больш улічаны розныя ўзросты дзяцей, якім адрасуюцца падабраныя творы. А пакуль мая галоўная задача — паказаць праблемы, засяродзіць на іх увагу нашай прагрэсіўнай педагагічнай навукі, а найперш тых людзей, у чыіх руках — дзеці.

### СВЯТА Ў БУДЗЕНЬ

Заціх на лузе звон пчаліны,
замоўк у лесе хор птушыны,
заглухла музыка жніва.
І першым ранкам вераснёвым
спяшаецца з настроем новым
да школы роднае дзятва.

Сышліся класныя сямейкі
на ўрачыстую лінейку.
Званочак весела гучыць. Краіна ведаў,
адчыняйся, ніколі, шчасце,
не канчайся,
Вучыцца — шчасце, і вучыць!

### НА ДЗЯДЫ

Засыпае паляны, сцяжыны, даліны
лістапад, ліста-пад.
Спачываюць палі. Надышлі Асяніны,
старадаўні абрад.

Залачоным лістом дзень аздобіў кароткі
лістапад залаты.
У краіне маёй памінаюцца продкі
(даўні звычай—святы).

Памянём іх, памерлых і закатаваных,
родных нам, дарагіх,
і прадоўжым жыццё на зямлі
ўратаванай,
жыццё справаў святых.

### НАВАГОДНЯЮ РАНІЦАЙ, АБО СПОЎНЕНАЕ ЖАДАННЕ

Што ўвечары заснула,
шкадавала Каця.
Ноччу Дзед Мароз прыходзіў,
ёй сказала маці.

Кнігі казак разгарнула
Каця з захапленнем.
Дзед Мароз прынёс ёй кнігу—
тут няма сумнення.

Ды ў дзяўчынкі Каці ўсё-ткі
ёсць адно пытанне:
як жа Дзед Мароз уведаў
пра яе жаданне?

### КАЛЯДЫ

Вялікую радасць
на вуліцы, ў хаты
прынеслі Каляды,
зімовыя святы,

прынеслі забавы,
і жарты, і песні,
і танцы, і гульні
Каляды прынеслі.

Не спі, пані скрыпка,
і бубен, прачніся —
цудоўныя святы
ў нас пачаліся.

### САКАВІЦКІ МАЛЮНАК

Надзя ў альбоме вясну малявала—
гожая дужа вясна паўставала.
Вобраз вясны атрымаўся жаночы:
мілая ўсмешка, чароўныя вочы,

кропкі вяснушак ля цёплых вачэй,
шчокі—за весняе сонца ярчэй,
ну а на шчочках—вясёлыя ямачкі,—
Надзя пісала малюнак свой з мамачкі.

### ГУКАННЕ ВЯСНЫ

Свята песенькай
сустракаем,
вясну весела
мы гукаем:
"Жаваронaчкі,
прыляціце,
цёпла лецейка
прынясіце".

Ходзім радасна
карагодам.
Выглянь, сонейка,
дай пагоду!

Шчасце-долечку
мы гукаем,
мы зямлю сваю
адмыкаем.

Жыта-жыцейка
хай рунее,
кветкі-красачкі
хай квітнеюць.

Свята шчырае
мы сустрэлі.
Птахі з выраю
прыляцелі.

### ДЗЕНЬ ВОЛІ

У беларусаў
ёсць Дзень волі,
свабоды свята, свята духу.
Хадзем, браты, да лепшай долі,
перамагайма нашу скруху!

Чыйгось не бралі мы ніколі,
але й сабе не зычым стратаў.
У беларусаў ёсць Дзень волі,
найдаражэйшае нам свята.

Нас прыніжаць ужо даволі,
народ мы, а не зброд, не статак!
У беларусаў ёсць Дзень волі,
ён—незалежнасці пачатак.

### НА ВЯЛІКДЗЕНЬ

Вялікдзень...
Прыйшлі, з даўніны завіталі
два словы, чысцейшыя ад белых рос,
сугучна, суладна яны загучалі:
Хрыстос уваскрос!

Ці чуеш, мая ўкрыжаваная Маці,
з надзеяй кажу я ў такую пару:
ўваскрэсні, дай краю свайму акрыяці,
паўстань, Беларусь!

### КУПАЛЛЕ

Пад купалам неба квітнее зямля
сплятаюцца краскі ў вяночкі.
Купалле святкуе людская сям'я
пад купалам летняе ночкі.

Вада ачышчэння і воля кастра—
ад захаду сонца да ўсходу.
Свабоды вам, людзі, здароўя, дабра
і вернае лучнасці, згоды!

Купаюцца краскі, і купы святла
змагаюцца з цемрай начною.
О, свята святла, ты не ведаеш тла,
азёрна-рачное, лясное!

У неба ад вогнішча песня плыве,
шчыруе Купалле, спявае.
Легенда пра папараць-кветку жыве,
легенда пра шчасце жывая!

СТАРОНКІ НОВЫХ ПАДРУЧНІКАЎ

# СУСВЕТНАЯ ГІСТОРЫЯ

**Як паведамлялася ў "Настаўніцкай газеце" ад 24 жніўня г.г., выданне новых падручнікаў па сусветнай гісторыі для 7 і 10 класаў і па інфарматыцы для 8 класа затрымліваецца.**

**У сувязі з гэтым з сённяшняга нумара "Настаўніцкая газета" будзе знаёміць настаўнікаў са зместам першых старонак падручнікаў па сусветнай гісторыі да выхаду іх з друку.**

### 10 КЛАС

### ПОГЛЯД НА ГІСТОРЫЮ

Свет на парозе XXI ст. За апошнія некалькі стагоддзяў у жыцці чалавечага грамадства адбыліся вялікія змены. Дзякуючы навуковым і тэхнічным дасягненням значна паскорыўся гістарычны працэс. Людзі сталі амаль незалежныя ад улады прыродных сіл, набылі невымерную магутнасць і свабоду. Аднак авалодванне чалавекам прыродай абганяла развіццё яго мудрасці. Сіла расла хутчэй за розум, хутчэй за маральнасць і духоўнасць.

Ідэя панавання чалавека над прыродай, навукова-тэхнічныя дасягненні, якія зрабілі яго жыццё больш зручным і камфартабельным, закружылі яму галаву, не дазволілі своечасова заўважыць, што набліжаецца небяспека. У XIX ст. яшчэ не былі асабліва прыметныя разбуральныя вынікі прамысловага развіцця і тэхнічнага прагрэсу. Цяжка было ўявіць, што прагрэс, з якім былі звязаны самыя светлыя надзеі чалавецтва, можа прывесці да знішчэння навакольнага асяроддзя, хаця ўжо даўно гучалі перасцерагальныя галасы. К канцу XX ст. людзі сутыкнуліся з праблемамі, якія атрымалі назву глабальных, паколькі ад іх вырашэння залежыць лёс усяго чалавецтва.

Праблема вайны і міру. Ніколі так многа і прыгожа не гаварылася аб міры, так сурова не асуджалася вайна, як у XX ст. Быццам па злой іроніі лёсу, менавіта яно выбухнула дзвюма разбуральнымі сусветнымі войнамі, якія бязлітасна высвецілі адмоўныя бакі індустрыяльнай цывілізацыі. Сусветныя войны пахіснулі веру чалавека ў будучае, у невычэрпныя магчымасці навукова-тэхнічнага прагрэсу. Выявілася, што навука і тэхніка абыякавыя да чалавечай долі. Яны з аднолькавым поспехам могуць служыць і дабру, і злу.

Нягледзячы на трагічны вопыт зусім нядаўняй гісторыі, паранейшаму ўзрастаюць расходы прамысловых краін на ваенныя патрэбы. Большасць вучоных і цэлая армія тэхнікаў працуюць выключна над вытворчасцю і ўдасканаленнем узбраенняў. Запасы настолькі вялікія, што іх дастаткова для таго, каб некалькі соцень разоў знішчыць усё жывое на Зямлі. І ўсё гэта адбываецца ва ўмовах, калі ў большасці краін свету растуць голад і галеча, калі дзесяткі мільёнаў людзей штогод паміраюць ад галоднай смерці.

Экалагічны крызіс. Пасля двух стагоддзяў індустрыялізацыі і дэмаграфічнага выбуху прыроднае асяроддзе і атмасфера Зямлі страцілі хімічную і фізічную раўнавагу. Аб'ём выкідаў шкодных рэчываў стварае пагрозу сусветнаму клімату. З катастрафічнай хуткасцю памяншаюцца ўрадлівыя землі і запасы чыстай вады. Можа наступіць такі момант, калі насельніцтва планеты сутыкнецца з усеагульнай няхваткай прадуктаў харчавання. Ці не прывядзе гэта да войнаў з-за апошніх рэсурсаў Зямлі?

Пад пагрозай знішчэння знаходзяцца многія віды жывых істот. Праз некалькі дзесяцігоддзяў з Зямлі могуць знікнуць 20% існуючых цяпер відаў. Гэта столькі ж, колькі знікла на планеце за апошнія 60 млн. гадоў.

**Духоўны крызіс.** Паскарэнне навукова-тэхнічнага прагрэсу не зрабіла людзей больш шчаслівымі. Сам прагрэс ішоў поплеч з войнамі, злосцю, фанатызмам і насіллем. XX ст. адкрыла перад чалавецтвам бездань духоўнага крызісу. Чалавек паўстаў у новым выглядзе і аказалася, што яго сапраўдная прырода далёкая ад той гарманічнасці, якую бачылі ў ім гуманісты і асветнікі. Упершыню за многія тысячагоддзі ўзнікла пагроза самазнішчэння. Як жа дайшло чалавецтва да гэтага стану? Як выжыць чалавеку і захаваць жыццё на Зямлі? Упершыню сутыкнуўшыся з такой праблемай, чалавецтва, як ніколі раней, зведвае пільную патрэбу разабрацца ў сваім мінулым. У гэтым яму дапамагае перш за ўсё гістарычная навука.

**Што такое гісторыя?** Уяўная прастата слова "гісторыя" не павінна ўводзіць нас у зман. Гэта слова мнагазначнае, у яго свой, вельмі складаны лёс. Слова "гісторыя" — грэчаскага паходжання. Першапачаткова яно азначала "расказ", "апавяданне" аб мінулым. З часам гэта слова набыло розныя сэнсавыя адценні, захоўваючы пры гэтым сваё першапачатковае значэнне. Гісторыя — гэта расказ і апавяданне, гэта казка і легенда, нарэшце, гісторыя — гэта і выпадак у нашым штодзённым жыцці (напрыклад, "трапіць у гісторыю"). Гісторыя — гэта мінулае, якое захавалася ў памяці людзей. Нарэшце, і перш за ўсё, гісторыя — гэта само паслядоўнае развіццё і змяненне чалавечага грамадства, але таксама і веды аб гэтым развіцці і змяненні, навука аб мінулым. У гэтых двух значэннях мы часцей за ўсё выкарыстоўваем слова "гісторыя", строга адрозніваючы гісторыю як дзеянне і гісторыю як навуку аб ім.

**Гістарычная навука.** Гэта навука аб развіцці чалавечага грамадства. Яна вывучае мінулае чалавецтва ва ўсёй яго канкрэтнасці і разнастайнасці. У гэтым сэнсе гісторыя складаецца з сусветнай (усеагульнай) гісторыі і гісторыі асобных краін. У адпаведнасці з агульнапрынятай перыядызацыяй яна дзеліцца на гісторыю першабытнага грамадства, гісторыю старажытнага свету, гісторыю сярэдніх вякоў, новую і навейшую гісторыю. Галінамі гістарычнай навукі з'яўляюцца эканамічная гісторыя, ваенная гісторыя, археалогія, этнаграфія, а таксама дапаможныя гістарычныя дысцыпліны: палеаграфія, дыпламатыка, генеалогія, геральдыка, сфрагістыка, нумізматыка і інш.

**З гісторыі гістарычнай навукі.** Погляд на гісторыю як навуку выпрацоўваўся на працягу многіх стагоддзяў. Да паяўлення пісьменнасці не было і пісьмовай гісторыі. Падзеі мінулага адлюстроўваліся толькі ў вуснай народнай творчасці. Першабытныя міфы былі аддаленымі папярэднікамі гістарычных ведаў. Па іх мы ўжо можам меркаваць аб тым, якія ўяўленні аб сваім мінулым былі ўласцівыя людзям у дагістарычную эпоху.

Першыя вядомыя нам помнікі пісьменнасці ўзніклі ў Старажытным Егіпце каля 5 тыс. гадоў назад. Зародкі гістарычных ведаў мы знаходзім і ў папірусах егіпецкіх фараонаў, і ў надпісах асіра-вавілонскіх цароў, і ў старажытнейшых індыйскіх і кітайскіх крыніцах. Аднак вылучэнне гісторыі ў асобую галіну ведаў і літаратуры адбылося ў Грэцыі ў VI — V ст. да н.э. Для абазначэння гэтай галіны ўпершыню ўзнік тэрмін "гісторыя", які не сустракаецца ў больш ранніх старажытнагрэчаскіх тэкстах. Выдатнымі гісторыкамі старажытнасці былі антычныя аўтары Герадот, Фукідыд, Тацыт, кітаец Сыма Цян. Першую "Усеагульную гісторыю" напісаў рымлянін Палібій. Менавіта ў часы антычнасці былі закладзены асновы гісторыі як навукі.

У ходзе свайго далейшага развіцця гістарычная навука паказала, што яна можа не толькі назапашваць факты, але і ўстанаўліваць іх узаемасувязь, прычынную абумоўленасць падзей. Значны рывок уперад ажыццявіла гістарычная навука ў мінулым стагоддзі. Гістарычныя веды, якія раней абмяжоўваліся ў асноўным Заходняй Еўропай, выйшлі далёка за яе межы і геаграфічна, і храналагічна.

**Сэнс гісторыі.** Людзі заўсёды імкнуліся растлумачыць сэнс гісторыі і яе накіраванасць, зразумець, чаму яна ідзе менавіта такім, а не іншым шляхам. Французскі асветнік XVIII ст. Вальтэр нават увёў тэрмін "філасофія гісторыі". Ён лічыў, што вучоныя павінны не толькі апісваць падзеі, але і па-філасофску тлумачыць іх. Пасля гэтага тэрмін "філасофія гісторыі" стаў шырока ўжывацца і ў навуковай, і ў папулярнай літаратуры. Аднак філасофскае тлумачэнне гісторыі існавала даўно.

Мысліцелі ўсіх часоў па-рознаму тлумачылі сэнс гісторыі і яе рухаючыя сілы. Яшчэ ў антычную эпоху ўзнікла ідэя аб тым, што не багі, а людзі робяць гісторыю. Прычыны гістарычных падзей тлумачыліся жаданнямі і пачуццямі людзей, уласцівасцямі і характарам іх прыроды. Антычныя аўтары бачылі задачу гісторыі ў тым, каб павучаць палітычных дзеячаў, вучыць і пераконваць дапытлівых людзей.

(Працяг на 4-й стар.).

ДА ДНЯ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА І ДРУКУ

# ДУХОЎНАЯ ПОВЯЗЬ ЧАСОЎ

4 верасня 1994 года ўпершыню будзе адзначацца на Беларусі новае свята—Дзень беларускага пісьменства і друку. Святочныя мерапрыемствы пройдуць з 28 жніўня па 4 верасня. Цэнтрам урачыстасцей будзе Полацк, калыска беларускай дзяржаўнасці, культуры, горад, з якім звязаны імёны нашых славутых продкаў Ефрасінні Полацкай і Францішка Скарыны. Арганізатары свята—Міністэрства культуры і друку, міністэрствы адукацыі і замежных спраў, Акадэмія навук, творчыя саюзы, разнастайныя фонды і грамадскія арганізацыі—запланавалі навукова-творчую экспедыцыю "Дарога да святыняў", што пройдзе па старажытных цэнтрах культуры—Наваградку, Нясвіжы, Тураве, Оршы да Полацка. Гэты шлях асвеціць лампадка са святым агнём да Гроба Гасподня, што быў запалены ў 1992 годзе ў Іерусаліме і захоўваецца цяпер ў Свята-Духавым кафедральным саборы ў Мінску. 2 верасня ў Нацыянальным тэатры оперы і балета адбудзецца ўрачысты сход. 4 верасня ў горадзе Полацку адбудуцца мітынг, святочны канцэрт, народнае гулянне, свята дзіцячай кнігі.

Святочныя мерапрыемствы пройдуць ва ўсіх навучальных установах на Беларусі пад знакам першых урокаў, лекцый, семінараў, паседжанняў клубаў на тэму "Пісьменства і друк Беларусі — крыніца культуры і духоўнасці народа".

Кажуць, што ў народа, які не ведае і не памятае свайго мінулага, няма будучыні. Беларускі народ мае продкаў, чыя дзейнасць складае цэлыя эпохі ў культурным жыцці краіны. Наша зямля нарадзіла Рагвалода і Рагнеду, Ефрасінню Полацкую і Кірылу Тураўскага, Міколу Гусоўскага і Францішка Скарыну, Казіміра Лышчынскага і Сімяона Полацкага, Стэфана і Лаўрэнція Зізаніяў, Мелеція Сматрыцкага, Кастуся Каліноўскага і Тадэвуша Касцюшку... Гэты славуты рад можна доўжыць і доўжыць. Кожнае імя, што захавала наша гісторыя, мы павінны ведаць і шанаваць, бо ў гэтым аснова нашай чалавечай годнасці, з гэтага пачынаецца клопат пра дзяржаву, пра яе культуру, маральнасць і духоўнасць.

Перад настаўніцтвам стаіць высакародная задача навучыць нашу моладзь ганарыцца сваімі продкамі,не забываць адкуль яны родам ведаць сваю спадчыну, дзе нашы карані, разумець усю веліч подзвігу свайго народа і таго, што ён перанёс, паважаць і любіць душу народа — родную мову. І тады яна адчуюе сябе часцінкай беларускага народа, які мае тысячагадовую гісторыю, слаўнае мінулае і багатую самабытную культуру.

Як вядома, элементы беларускай народнасці, асновай якой сталі славянскія плямёны крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў, з'явіліся ўжо ў VII—VIII ст. Гэты працэс працягваўся да XIII ст. Пра тое, што ў XIII ст. былі беларусы, пісаў яшчэ ў пачатку XX ст. наш слынны вучоны акадэмік Я. Ф. Карскі. Плямёны, што склалі аснову беларускага народа, уваходзілі ў своеасаблівае ваенна-палітычнае аб'яднанне — усходнеславянскую дзяржаву, якая ўтварылася ў канцы IX ст. на грунце фарміравання важнай воднай магістралі па Дняпры, Дзвіне, Ловаці і Волхаве з Візантыі ў Скандынавію. Па гэтым водным шляху ішоў міжнародны гандаль, рабіліся ваенныя паходы. Імкненне плямёнаў і іх кіраўнікоў валодаць важным шляхам "з варагаў у грэкі" і стала асновай для ўзнікнення Кіеўскай дзяржавы. Дзякуючы Заходняй Дзвіне ўзвысіўся горад Полацк. Ноўгарад засланяў гэты шлях з поўначы, Кіеў — з Поўдня. Ужо ў X ст. існавала незалежная дзяржава—Полацкае княства. У сувязі з гэтым варта ўспомніць першага полацкага князя, імя якога названа ў пісьмовых гістарычных крыніцах, выдатнага гістарычнага дзеяча Рагвалода. Гэта ён зразумеў і высока ацаніў магчымасці Полацкай зямлі як асобнай дзяржавы, што мае свае мэты і інтарэсы, незалежныя ад Кіева і Ноўгарада, і аднавіў яе самастойнасць. Рагвалод пачаў таксама барацьбу за аб'яднанне Полаччыны з Дрыгавіцкімі землямі. Па ініцыятыве Рагвалода князь Тур заснаваў у канцы X ст. горад Тураў, які стаў другім важным ваеннапалітычным цэнтрам на тэрыторыі Беларусі і даў магчымасць адкрыць водны шлях з Прыпяці ў Нёман і Заходні Буг.

У нашай слаўнай гісторыі побач з князем Рагвалодам стаіць і імя яго дачкі Рагнеды, звесткі пра якую дайшлі са старажытных летапісаў—"Аповесць мінулых гадоў" (980 г.), "Цвярскі і Густынскі летапісы" (988 г.), "Лаўрэнцьеўскі летапіс" (1128 г.). Як сведчаць летапісы, ноўгарадскі князь Уладзімір перад ваенным паходам на Кіеў, дзе княжыў яго брат Яраполк, пасватаўся да дачкі Полацкага князя Рагвалода. На пытанне Рагвалода "Ці хочаш ісці за Уладзіміра?" Рагнеда рашуча адмовіла: "Не хачу разуць сына рабыні, а хачу за Яраполка". Пасля таго, як слугі прынеслі адмову Рагнеды, Уладзімір сабраў войска—варагаў, славенаў, чудзь, крывічоў—і пайшоў на Рагвалода. Напаўшы на Полацк, Уладзімір забіў Рагвалода і яго двух сыноў, а дачку яго прымусіў быць сваёй жонкай. Рагнеда ненавідзела Уладзіміра. І вось аднойчы, калі князь, заехаўшы да жонкі, заснуў, яна рашыла Уладзіміра зарэзаць. Але князь прачнуўся і схапіў яе за руку. Рагнеда без страху растлумачыла мужу, чаму хацела яго забіць: "За тое, што бацьку майго забіў і зямлю яго паланіў і не любіш мяне з гэтым дзіцём (пра сына Ізяслава)". Уладзімір загадаў Рагнедзе апрануцца ў царскае адзенне, у якім яна была ў час шлюбу, і чакаць на пасцелі. Чакаючы расправы, княгіня дала сыну ў рукі меч і навучыла сказаць: "Ты не адзін тут". Ізяслаў выканаў просьбу маці. Уладзімір, пачуўшы гэтыя словы, прамовіў: "А хто ведаў, што ты тут", — апусціў меч, склікаў баяр і паведаміў ім пра ўсё. Баяры параілі: "Ужо не забі яе дзеля дзіцяці гэтага, але аднаві айчыну яе і дай ёй з сынам сваім". Уладзімір так і зрабіў. Хутка быў збудаваны горад Ізяслаў (цяпер Заслаўе Мінскай вобласці), дзе пасяліліся Рагнеда з сынам.

Як адзначаюць гісторыкі, напад Уладзіміра на Полацк і жаніцьба з Рагнедай адбыліся не пазней 976 г. У гісторыі сватання наўгародскага і кіеўскага князёў летапісцамі асэнсаваны тагачасныя палітычныя ўзаемаадносіны паміж Ноўгарадам і Кіевам за ўплыў у Полацку. У летапісах адлюстравана духоўнае хараство Рагнеды і яе маральная перавага над Уладзімірам, бязмежная адданасць Радзіме, пякучая нянавісць да яе ворагаў. Вобраз Рагнеды ўвасобіў сабой канчатковае заваяванне незалежнасці Полацкам, стаў зыходнай падзеяй гісторыі Беларусі, ён прайшоў праз стагоддзі і адлюстраваўся ў мастацкіх творах К. Рылеева, Т. Шаўчэнкі, Я. Купалы. А вось радкі з далёка не ўсім вядомай паэмы Лявона Случаніна (Лявона Сцяпанавіча Шпакоўскага) "Рагнеда", напісанай у 1943 годзе:

Славу ткалі гады,
На крывіцкай зямлі
Панавалі
І шчасце, і згода.
У харомах сваіх
На пацеху ўсім
Вырастала Дачка
Рагвалода.
Залацістыя косы
Ёй сонца дало,
Дало неба ёй
Сінія вочы;
На квяцістым лугу
За вішнёвым сялом
Дала лілія
Стан ёй дзявочы.

Навучыла жыццё
Волю светлую піць
І ніколі
Не знацца з прымусам.
Навучыла зямля,
Як Радзіму любіць,
Як любіць
Крывічоў-беларусаў.

*(З публікацыі ў часопісе "Спадчына", 1991, № 4). Варта пазнаёміць школьнікаў і з гістарычнай драмай Пётры Крэчаўскага "Рагнеда" (часопіс "Спадчына", № 3, 1993 г.)*

Рагнеда прычынілася і да пашырэння хрысціянства на Полаччыне, якое афіцыйна было прынята Кіевам у 988 годзе. І хоць хрышчэнне ўсходнеславянскага народа праходзіла гвалтоўна, новая вера вымушана была прыстасоўвацца да язычніцкай (паганскай). Важным станоўчым вынікам гэтай падзеі стала ўвядзенне і пашырэнне пісьменства, а з ім — і развіццё асветы і культуры на Полаччыне.

**Горад Ізяслаў быў уладаннем Рагнеды. Тут яна стала манашкай Анастасіяй, заснавала манастыр, які стаў важным асяродкам хрысціянства. Сын Рагнеды Ізяслаў жыў у Полацку, стаўшы полацкім князем. Ён прадоўжыў эстафету (пачатую сваім дзедам Рагвалодам) барацьбы за незалежнасць айчыны. Пра Ізяслава можна гаварыць і як пра першаасветніка на Полаччыне, які ўвёў тут пісьменства. Пацвярджэннем таго, што ў Полацку ў той час пісаліся граматы, з'яўляецца пячатка полацкага князя Ізяслава (памёр у 1001 г.), знойдзеная пры раскопках у Ноўгарадзе. На пячатцы па-грэцку напісана імя князя. Ізяслаў стаў першым з усходнеславянскіх князёў, названым у Ніканаўскім летапісе кніжнікам.**

Школьнікам карысна будзе даведацца, што ўпершыню фанетычнае (літарнае) пісьмо з'явілася ў фінікійцаў (тэрыторыя цяперашняга Лівана), адкуль прыблізна ў IX ст. да н.э. было запазычана грэкамі. У розныя часы на аснове грэцкага алфавіту склаліся два алфавіты—лацінка і кірыліца. У старажытных славянаў быў яшчэ адзін шрыфт—глаголіца, які пераважна выкарыстоўваўся для тайнапісу. Пакуль дакладна невядома, які з гэтых алфавітаў склалі браты Кірыл і Мяфодзій.

Самым старажытным помнікам кірылічнага пісьма на тэрыторыі пляменнога саюза крывічоў лічыцца надпіс "гороухша" (магчыма, абазначае "гарчыца") на гліняной пасудзіне першай чвэрці X ст., знойдзенай у курганах пад Смаленскам.

Вучоныя мяркуюць, што пісьмо ў нашых продкаў існавала і да распаўсюджання кірыліцы. У канцы IX ст. балгарскі пісьменнік чарнарызец Храбр паведамляў пра славянаў да іх хрышчэння: "Прежде убо словене не имеху книг, но чрьтами и резами чьтеху и гадааху" (г. зн. славяне яшчэ не мелі кніг, але, карыстаючыся рыскамі і рэзамі, чыталі і гадалі). На тэрыторыі старажытных славян знойдзены помнікі невядомай пісьмовасці. Таямнічыя знакі засталіся на гліняной славянскай пасудзіне, на наканечніку дзіды, на 2 фрагментах керамікі. У Бабруйскім павеце каля ракі Пціч быў камень, на якім надпіс складаўся з літар "накшталт птушыных лапак". На месцы старажытнага беларускага горада Драгічына даследчыкі сабралі гандлевыя пячаткі X-XVI ст. На адным баку свінцовых пломбаў стаіць літара кірыліцы, а на адваротным—адзін з загадкавых знакаў. Пяць надпісаў знойдзены ў Вільні: на бяросце, на цаглінах, на камені. Ніводзін з надпісаў на гэтых знаходках яшчэ не прачытаны. Існуе гіпотэза, што тыя надпісы пакінулі продкі беларусаў (славяне або славізаваныя балты), значная частка якіх на Віленшчыне заставалася паганцамі і магла карыстацца не кірыліцай, а сваёй дахрысціянскай сістэмай пісьма.

**Школы кніжнага навучання ў старажытнасці існавалі пры манастырах і рыхтавалі адукаваных людзей для кіравання дзяржавай. Такія школы дзейнічалі ў Кіеве, Ноўгарадзе, Полацку, Чарнігаве, Растове, Тураве, Пскове, Мураме. У Валагодска-Пермскім летапісе чытаем: "Князь великий Володимер собрав детей 300 вдал учити грамоте". У 1037 годзе Яраслаў адкрыў школу пры Сафійскім саборы ў Кіеве, а для стварэння навучальнай базы "собра писце многы и перекладаше от грек словенское письмо и исписаше книгы многы". (Полное собрание русских летописей, т.1, с. 152).**

Сімвалам незалежнасці беларускіх зямель, галоўным будынкам горада, цэнтрам духоўнасці і культуры стаў Полацкі храм Сафіі-Мудрасці Божай. Ён быў пабудаваны знакамітым полацкім князем Усяславам Чарадзеем каля 1050—1055 гг. Тут прымалі паслоў, тут абвяшчаліся вайна і мір, тут захоўваліся княжацкая казна і бібліятэка. З гэтым саборам звязана і асветніцкая дзейнасць князёўны Прадславы-Еўфрасінні—унучкі Усяслава Чарадзея. У адной з келляў у каменнай вежы ("галубніцы") маладая князёўна-"манашка" займалася вельмі складанай на той час работай—перапісваннем кніг, па якіх потым вучыліся яе суайчыннікі. "Книги писати своими руками"—такая праца ацэньвалася як "подвижнейши подвиг". Мяркуецца, што Ефрасіння пісала летапіс і арыгінальныя творы. Асветніцкую дзейнасць вялікай кніжніцы так ацанілі яе сучаснікі: "Еуфросиниа—небопарный орел, попаривши от Запада до Востока, яко Луна солнечная, просветивши всю землю Полоцкую!".

Побач з Ефрасінняй Полацкай стаіць і імя вядомага старажытнага асветніка Кірылы Тураўскага. Тураўскім Златавустам назваў яго невядомы аўтар "жыція" пад назвай "Памяці святога нашага бацькі Кірылы, епіскапа Тураўскага", напісанага ў XII ст. Гады нараджэння і смерці Кірылы Тураўскага вызначаюцца прыблізна — ад 1130 да 1182 гг. Са скупых звестак "жыція" перад чытачамі паўстае надзвычай аскетычны манах, які, адгарадзіўшыся ад свету ў сваёй келлі, складаў малітвы. Такое жыццё захапляла суайчыннікаў. Па просьбе народа мітрапаліт Канстанцін зрабіў адукаванага манаха духоўным пастырам. Праз 8 стагоддзяў да нас дайшлі знакамітыя творы Кірылы Тураўскага: прыпавесць пра душу і цела (інакш — пра сляпога і кульгавага), аповесць пра беларызца і манаха (пра бясклапотнага цара і яго мудрага дарадцу), сказанне пра чын чарнарызца, 8 казанняў ("словаў") на тыдні і святы велікоднага цыкла, 21 малітва (па 3 на кожны дзень тыдня), 2 каноны (малебны на смерць княгіні Вольгі). Мяркуецца, што пяру вядомага ўсходнеславянскага аўтара XII ст. належыць таксама 11 "словаў" і 9 малітваў.

Кірыла Тураўскі валодаў на той час незвычайным літаратурным майстэрствам, выдатна ведаў тэорыю і практыку рыторыкі. Ён складаў надзвычай красамоўныя творы, арыентуючыся больш на эстэтычны, чым на дыдактычны эфект. Менавіта гэтым яго "словы" адрозніваліся ад твораў Іаана Златавуста, з якім аўтар "жыція" параўноўваў тураўскага епіскапа. Для ўсходнеславянскага народа, дзе філасофска-хрысціянская думка толькі нараджалася, яго літаратурная і асветніцкая дзейнасць мела выключнае значэнне і прынесла яму славу на вякі.

(Працяг на 4-й стар.).

